 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 37 (602) ГОД XII 10 ВЕРАСНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.





Мікола Міцкевіч

* ✲ *

У часе страшнай вайны
Мы часта кідалі хаты:
Трывожылі нашыя сны
Разгневаныя гарматы.

Гарматы — багі вайны —
Вы нават у дзень перамогі
Грымелі, як перуны,
Будзілі зямныя аблогі.

Будзілі... Мы зналі,
бяды
Вы прынясці не ў сіле...
Чаму ж вы, гарматы тады
Бацьку майго не збудзілі?




## СУСТРЭЧЫ З ДЗЯРЖЫНСКІМ

Язэпу Касікоўскаму зараз 80 год. На стале, за якім сядзім у яго хаце на вуліцы Кашыковай у Беластоку, поўна нейкіх судовых актаў.

— Гэта мая грамадская праца, — паясняе гаспадар. — Па прафесіі я натарыус. Дык дапамагаю Беластоцкаму натарыяльнаму бюро парадкаваць некаторыя акты. У натарыяльных кантарах прайшло маё жыццё. Пачаў я яшчэ пры царскай уладзе ў канторы Матвеева ў Беластоку.

Памятаю летам 1912 года прыйшоў да мяне ў кантору сябра па рабоце і шэпча на вуха:

— У Беласток прыехаў Фелікс Дзяржынскі, на Баярах у краўчыхі Лянчэўскай спыніўся. Гавораць, што мітынг будзе.

Мне было тады 25 год. Я сімпатызаваў з сацыялдэмакратычным рухам, распаўсюджваў лістоўкі, якія мы атрымоўвалі з Лодзі. Таму прозвішча Фелікса Эдмундавіча не было для мяне чужое. Хацелася яго пабачыць. Мітынг праходзіў у антанюкоўскім лесе (цяпер там могільнік). Сабралося многа рабочых беластоцкіх фабрык. Выступіў Дзяржынскі. Слухаў я яго ўпершыню. І пераканаўся, што ён дасканалы аратар. Проста іскры сыпаліся з яго слоў.

У 1915 годзе разам з хваляй бежанцаў я апынуўся ў Бранску. Працаваў надалей у натарыяльнай канторы, але адначасова завёў знаёмствы з рабочымі

(Працяг на стар. 4)



Язэп Касікоўскі.

### УДЗЕЛЬНІКІ КАСТРЫЧНІКА ПРОСІЦЬ ВАС ВК ПАРП

На Беласточчыне яшчэ да сёння жыве шмат удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны ў Расіі.

Аддзел гісторыі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку збірае пра іх весткі. Зараз зарэестравана ўжо звыш 50 таварышоў. На жаль, усё яшчэ астаюцца невядомымі адрасы многіх людзей, якія змагаліся за савецкую ўладу. ВК ПАРП хацеў бы зарэестраваць усіх.

Гэтыя ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, якія найбольш заслужыліся, могуць разлічваць на высокія адзнакі і дзяржаўную пенсію. Таму ўсіх зацікаўленых просім паведаміць свае адрасы Аддзелу гісторыі Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку. (ВР)



Над Бугам ля вёскі Турна ў Сямяціцкім павеце. Фота: В. Рудчык

Сёння адпраўляемся за Буг — у павет Лосіцы, Варшаўскага ваяводства. Па дарозе сустракаем вёскі: Галаўчыцы, Гарашкі, Сэрпэліцы. Усе яны ўжо за Бугам. Аднак дзіўна па-нашаму, па-сваяцку гучаць іх назвы.

Спыняемся крыху даўжэй у Сэрпэліцах. Гэтай вёскай калісьці цікавіўся выдатны польскі мовавед, дацэнт Варшаўскага ўніверсітэта, доктар **Ян Такарскі.** Як вынік гэтага зацікаўлення ў снежні 1964 года паявілася кніжка[1]):




«Гаворкі Сэрпэліц». Ва ўступе да гэтай кніжкі доктар Такарскі між іншым сцвярджае:

«...Насельніцтва (вёскі Сэрпэліцы — В. Р.) здаўных-даўна гаварыла мясцовай рускай гаворкай, а толькі ад 1905 года (дата ўказу дазваляючага даўнейшым уніятам выказацца за рымска-каталіцкім веравызнаннем) польская мова пачала адыгрываць значнейшую ролю ў жыцці гэтага насельніцтва. Ролю гэтую штораз больш замацоўваў уплыў касцёла, а пасля I сусветнай вайны таксама ўплыў школы, войска і дачнікаў. У 1939 годзе насельніцтва было, уласна кажучы, двухмоўнае, з усё больш растучай перавагай польскай мовы. Моўныя суадносіны ўкладваліся такім чынам, што польскую мову трактавалі як афіцыйную, якую ўжывалі для рэлігійных практыкаванняў, у суадносінах з адміністрацыяй, інтэлігенцыяй, дачнікамі, словам — у кантактах з вонкавым светам. Руская гаворка ў той час мела характар больш прыватны, інтымны, для гаспадарскіх патрэб, для глыбейшай эмацыянальнай непасрэднасці... (Зараз) мясцовая гаворка занікае, трываючы яшчэ ва ўспамінах старэйшых асоб...»

Для навуковага аналізу доктар Такарскі накапіў тысячы слоў, якія характарызуюць асаблівасці сэрпэліцкай мовы. У Сэрпэліцах гавораць: **дорогі**[2]), **грошы, чоботы, деўчына, горелка, хлеб, орех, ходіті, робіті** і т.п.

Вёска зараз налічвае звыш 500 чалавек, якія размясціліся на звыш 100 гаспадарках. У вёсцы новая школа і пастаяннае кіно, драўляны касцёл. Ціха тут і прыгожа. Спакойны Буг, сасновы бор і маляўнічыя краявіды.

Дамы ў вёсцы выключна драўляныя (апрача школы і кіно), некаторыя яшчэ пад саламянай страхой, пакрыты на спосаб вельмі характэрны для вядомых нам беларускіх хат.

У Сэрпэліцах жывуць: **Саўчукі, Адамюкі, Філіпюкі, Тамашукі, Грыцюкі, Яконюкі** (іх найбольш), **Казакі, Крошкі** і іншыя.

Прозвішчы па аб'ектыўных прычынах не паддаваліся ніякім уплывам і пераменам. Ад вякоў пераходзілі з бацькоў на дзяцей. І таму ў іх найбольш трывала захаваўся характар мінулага вёскі.

Солтыс **Ян Крошка,** якому зараз 46 год, гутарыць з намі выключна папольску; карыстаецца чыстай, літаратурнай польскай мовай.

— Простай мовай, — кажа ён, — карыстаюцца яшчэ старыя. Маладыя, а тым больш дзеці, разумеюць яе, але не ўжываюць.

На панадворак увайшла нейкая цётка, год пад 65, адклікала солтыса. Прыслухоўваюся іх гутарцы.

— Шчо то за паны прыіхалі? — пытае цётка.

— А то якіісь корэсподэнты, — паясняе на той жа гаворцы солтыс. — Цікавятся, як у нас жывут і говорат люды.

Мікалаю Крошцы таксама ўжо пад 70. Мала калі аддаляўся ён ад свае роднай вёскі. Апавядае:

— Калі я быў малым, дома ў нас га-

(Працяг на стар. 4)

## У сяброў літоўцаў

Наогул мы мала ведаем аб нашых сябрах літоўцах, украінцах ці рускіх, якія жывуць у Польшчы, а тым больш у Беластоцкім ваяводстве. Можа ведаць і ведаем, але актуальна ніхто не інфармуе аб іх жыцці. З тым большаю прыемнасцю наведаў я Сэйны — павятовы горад, зараз «сталіцу» нашых сяброў літоўцаў. Штопраўда і аказія да наведання нештодзённая. Дзесяць год таму назад 30 сакавіка 1957 года паўстала **Літоўскае грамадска-культурнае таварыства.** Іменна ў жніўні г.г. на ўрачыстым пленуме, пры ўдзеле пасла на Сейм **Крыстыны Млыньчык-Маршалэк,** кіраўніка УСВ **Антона Рошка,** намесніка адміністрацыйнага аддзела КВ ПАРП **Базылі Федэньчука** і мясцовых улад, адзначалася юбілей.

Першае, што мне кінулася ў вочы, гэта вялікае зацікаўленне з боку літоўскага насельніцтва сваім таварыствам. Зала, дзе адбываўся пленум, была запоўнена па берагі людзьмі ў розным узросце і розных прафесій. Калі генеральны сакратар таварыства **Яўген Петрашкевіч** чытаў даклад, прысутныя як бы былі ачараваныя, уважліва слухаючы яго.

Фактычна, дасягненні літоўскага асяроддзя ў Сэйненскім павеце за апошнія 10 год велізарныя. Лікі паказваюць, што да 1957 года было тут электрыфікавана 22 сялянскія сялібы, а зараз іх налічваецца 432. У такіх ГРН (дзе пражываюць у асноўным літоўцы) як: Клейвы, Смаляны, Пуньск, Відугеры, Едэлішкі і Агроднікі на меліярацыю і загаспадараванне лугоў выдана 13.800.000 зл. Нельга забываць, што Сэйненскі павет займае адно з першых месц у ваяводстве, калі разыходзіцца аб пабудову дарог грамадскім чынам, а ў тым не малая роля літоўскага насельніцтва.

Не меншыя дасягненні назіраюцца ў **галіне асветы.** Зараз у 20 пачатковых школах (на агульную колькасць 40) і

(Працяг на стар. 3)

 

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ГАНКОНГ

Ганконг гэта паўвостраў, які знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы Кітая. Абшар — 1.013 кв. км., 3.084.000 насельніцтва, сталіца Вікторыя.

Ганконг апрача Сінгапуру з'яўляецца для Вялікабрытаніі важнай базай на Далёкім Усходзе. З'яўляецца ён таксама найвялікшым гандлёва-камунікацыйным цэнтрам Паўднёва-ўсходняй Азіі і варотамі, якія спалучаюць Кітай з заходнімі краінамі ўключна з дзяржавамі, з якімі КНР не ўтрымоўвае ніякіх дыпламатычных адносін, а таксама са шматлікай кітайскай эміграцыяй. Ганконг гэта важны пункт сувязі Кітая са светам. Можна сказаць, што Ганконг выгадны Кітаю таму, што іменна сюдою ідуць кітайскія тавары на сусветныя рынкі ў краіны, з якімі Кітай не мае нават падпісаных гандлёвых дагавораў. Кітайскі экспарт праз Ганконг ацэньваецца на 700 мільёнаў амерыканскіх долараў. З другога боку Кітай з'яўляецца дастаўшчыком у Ганконг не толькі харчоў, але нават салодкай вады.

Калі разыходзіцца аб камунікацыю, дык трэба сказаць, што вялікі транзітавы аэрапорт у Ганконгу прыймае самалёты 22 міжнародных авіяцыйных ліній, а вялікі марскі порт спалучае рэгулярныя лініі з партамі Еўропы, Аўстраліі, Новай Зеландыі, а таксама Азіі і Афрыкі. Зараз, як мы пісалі, гэта запальны пункт між Кітаем і Англіяй.

### СІТУАЦЫЯ І ВЫБАРЧЫ ФАРС

На 12 тысяч паўднёва-в'етнамскіх вёсак толькі 2 тысячы кантралююць амерыканцы. Апошнія знаходзяцца пад кантролем 1.200.000 змагаючыхся в'етнамскіх патрыётаў. Іменна ў такой сітуацыі пачалася ў мінулую нядзелю «выбарчая кампанія». Што гэта быў выбарчы фарс, сведчаць хаця б два прыклады: 1) сенатар **Роберт Кенедзі** сказаў, што не бачыць прычын, каб змяніць сваю думку, што паўднёва-в'етнамскія выбары будуць выбарчым фарсам, 2) шэф паўднёва-в'етнамскай паліцыі быў арыштаваны толькі за тое, што дамагаўся цывільнага кандыдата на прэзідэнта.

### НЕ ТОЛЬКІ «ЭКСПО»

Канада звярнула на сябе ўвагу не толькі дзякуючы сусветнай выстаўцы «Экспо 67». Шырокім рэхам адбілася на цэлым свеце паездка дэ Голя ў Канаду. Як вядома, пражывае тут насельніцтва, якое гаворыць на англійскай і французскай мовах. Канадцаў, якія гавораць па-французску, найбольш жыве ў правінцыі Квебек. Правінцыя гэта з'яўляецца найбольш прамысловай часткай Канады, а з другога боку насельніцтва яе найбольш убогае. Іменна ў Квебеку 40 працэнтаў беспрацоўных усяе Канады.

Паездка дэ Голя ў Канаду была толькі аказіяй, каб выказаць незадавальненне з палітыкі канадскага ўрада іменна насельніцтвам Квебека.

АК

## БССР

### ЮБІЛЕЙ

Цэнтральная беларуская газета **«Звязда»** адзначае свой юбілей — нарадзілася яна **пяцьдзесят год** таму назад, як першая бальшавіцкая газета Беларусі. У сувязі з так знакамітым юбілеем адбылася ўрачыстая акадэмія ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балету ў Мінску. У акадэміі прынялі ўдзел кіраўнікі Беларусі на чале з Першым сакратаром ЦК КП Беларусі П. Машэравым, які меў вялікую прамову.

«Звязда» ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

### ВЫСТАЎКА

Адбылася выстаўка **«Прамысловасць Беларусі і тэхнічная эстэтыка».** Паказала яна вынікі супрацоўніцтва мастакоў і тэхнічных работнікаў прамысловасці.

— Зразумела, ні ў якім выпадку нельга гаварыць, быццам эстэтыка сёння ўжо канчаткова заваявала вытворчасць. Пакуль што, мяркуючы па выставачных экспанатах, мы маем толькі колькаснае павелічэнне прадпрыемстваў, якія ставяць перад сабой эстэтычныя задачы, — піша на старонках «Літаратуры і Мастацтва» беларускі архітэктар І. Герасіменка.

### МЕСЯЧНІК

Беларускае Міністэрства сельскай гаспадаркі наладзіла выдаванне месячніка **«Научно-техническая информация по сельскому хозяйству».** Месячнік прызначаны спецыялістам беларускай сельскай гаспадаркі.

### РАДЫЁ

15 лістапада 1925 года ўпершыню ў эфіры можна было пачуць беларускую мову. «Гаворыць Мінск»... У гэты дзень нарадзілася Беларускае радыё.

У сучасны момант ужо 70 працэнтаў тэрыторыі Беларусі ахоплена тэлевізіяй. Узмоцнена работу над стварэннем адзінай сеці Беларускай тэлевізіі і ўвядзеннем шматпраграмнага вяшчання, перад усім, у Мінску і ў абласных гарадах. У гэтым годзе закончыцца будова вялікага рэтранслятара ва Ушачах, дзякуючы чаму будзе магчымы прыём праграм Беларускай тэлевізіі на поўначы Беларускай ССР. У наступным годзе пачнецца будова магутнай перадавальнай станцыі Мінскага тэлецэнтра, а ў 1969 годзе запланавана будову апаратна-студыйнага комплексу.

### ШТОПЯТЫ

Кожны пяты трактар у Савецкім Саюзе зроблены ў гігантычным Мінскім трактарным заводзе.

### ГАДЗІННІКІ

Мінскі гадзіннікавы завод выпусціць сёлета каля двух мільёнаў гадзіннікаў.

### ВЕЛАСІПЕДЫ

На матацыклах і веласіпедах, што выпускае толькі за адзін год Мінскі мотавелазавод, могуць выехаць на святочны адпачынак за горад усе жыхары беларускай паўмільённай сталіцы.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ДАЖЫНКІ

У мінулую нядзелю традыцыйным ужо звычаем на стадыёне Х-годдзя ў Варшаве адбыліся цэнтральныя дажынкі. Падчас урачыстасці Уладзіслаў Гамулка выступіў з прамоваю, якой змест коратка пераказваем:

Уладзіслаў Гамулка заявіў, што ў гэтым годзе сельская гаспадарка мела нагогул добрыя плёны. Тым не менш прагрэс у збожжава-кармавой прадукцыі ўсё яшчэ замалы. У выніку таго дзяржава вымушана надалей купаваць збожжа за мяжою. У апошнія гады пакупка гэтая зменшылася на мільён тон, але надалей імпартуецца з-за мяжы каля 2 мільёнаў тон збожжа ў год.

Далей Уладзіслаў Гамулка пералічыў мерапрыемствы дзяржавы для развіцця сельскай гаспадаркі сцвярджаючы, што ў гэтай сітуацыі далейшае развіццё збожжавай прадукцыі залежыць у галоўнай меры ад саміх гаспадароў.

Вялікую частку свайго выступлення дакладчык прысвяціў значэнню для сельскай гаспадаркі пасляжніўных пасеваў, а асабліва жыта на корм. У апошняй частцы прамовы І Сакратар паінфармаваў аб планаваных на наступны год сельскагаспадарчых інвестыцыях. Прадбачыцца, што ў 1968 годзе колькасць штучных угнаенняў пабольшыцца на 15 прац., сума інвестыцыйных выдаткаў дзяржавы — на 10 прац. Фонд сельскагаспадарчага развіцця ўзрасце на 4,7 мільярда злотых. Пабольшыцца продаж гаспадарам будаўляных матэрыялаў: цэменту на 5,5 прац. і сценных матэрыялаў на 10 прац. Узрастуць інвестыцыйныя крэдыты сялянскім гаспадаркам.

### НАСТАЎНІК І ШКОЛА

4 верасня ў школах краіны пачаўся новы навучальны год. Напярэдадні новага навучальнага года міністр Асветы і вышэйшай адукацыі праф. Генрык Яблонскі выступіў па радыё з прамоваю да настаўнікаў. У прамове сваёй міністр, між іншым, заявіў:

— Выхаваўцы маюць у сваёй працы многа саюзнікаў. Павінны яны супрацоўнічаць з грамадскімі, бацькоўскімі і маладзёжнымі арганізацыямі, маюць права і абавязак шукаць падтрымкі ў палітычных і адміністрацыйных установах, чакаць дапамогі ад апарату педагагічнага кантролю, дапамогі ад усіх, каму залежыць на добрым функцыяніраванні школы. Але найважнейшым у развіцці польскай школы з'яўляецца ідэйны, разумны педагог. Ад яго залежыць становішча школы ў нашым грамадстве і грамадскае становішча настаўніка.

### ПІСТАЛЕТ

Для патрэб арміі ў прадукцыі знаходзіцца новы пісталет сканструяваны польскімі вайсковымі інжынерамі. Пісталет адзначаецца прастатою канструкцыі, малымі размерамі і малою вагою. А вось некаторыя дадзеныя: вага — 650 грамаў, даўжыня дула 8,5 сантыметра, ёмістасць магазіннай каробкі — 6 патронаў, дзейнасць — на каля 230 метраў.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ВЕРАСНЁВАЯ ГАДАВІНА

1 верасня ў 28 гадавіну гітлераўскай агрэсіі на Польшчу ў Беластоку адбыўся мітынг насельніцтва горада і прадстаўнікоў заводаў. Дэлегацыя прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана завязла вянкі на брацкую магілу ў Грабаўцу, дзе ў час акупацыі гітлераўцы расстралялі ўсіх жыхараў вёскі.

Затым вуліцамі горада — ад сядзібы Ваяводскага камітэта ПАРП да памятніка ўдзячнасці ў Беластоцкім парку — прайшоў маніфестацыйны паход. Ля памятніка ўдзячнасці з прамовай выступіў Міхал Марчук — прадстаўнік гарадскога камітэта Фронту адзінства народа. Дэлегацыі ад устаноў і прадпрыемстваў склалі вянкі кветак. Сабраўшыеся дэманстравалі супраць вайны ў В'етнаме і сваю салідарнасць з барацьбой аравійскіх народаў.

### ДАЖЫНКІ

На цэнтральных дажынках у Варшаве пабывала 2200 сялян з Беластоцкага ваяводства. Адначасова адбываліся на Беласточчыне раённыя дажынкі. Арганізатарамі дажынак з'яўляюцца сельскагаспадарчыя гурткі, якія аб'ядноўваюць у Беластоцкім ваяводстве звыш 90 тысяч сялян. Многія гаспадары Беласточчыны ў гэтым годзе дабіліся ўраджаю ў 20 цэнтнераў з гектара збожжавых культур — перш за ўсё дзякуючы добраму ўгнаенню палёў. Беластоцкія сяляне пад асеннія пасевы атрымалі ад дзяржавы 74 тысячы тон штучных угнаенняў — на 26 тысяч тон больш, як у мінулым годзе.

### ДЗЕНЬ ЭНЕРГЕТЫКА

Паўтары тысячы працаўнікоў энергетычнай прамысловасці 3 верасня ўрачыста адзначала сваё свята. У Беластоку адбылося ўрачыстае пасяджэнне. Павел Дабравольскі, Раман Дамашэўскі, Уладзіслаў Філёнчук і Язэп Станік, якія ў сваёй прафесіі працуюць ужо 25 год, атрымалі памяткавыя адзнакі і ганаровыя дыпломы. Для дзвюх брыгад — Мечыслава Дамалеўскага і Браніслава Павіхроўскага — прысвоена званне «Брыгады сацыялістычнай працы» імя Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы. Беластоцкія энергетыкі цесна супрацоўнічаюць з энергетыкамі БССР. Між іншым, з мясцовасці Рось у Савецкай Беларусі паступае электраэнергія ў Беласток і далей — у нашу краіну.

### 5000 НУМАРАЎ «ГАЗЕТЫ БЕЛАСТОЦКАЙ»

У панядзелак 4 верасня паявіўся ў продажу 5-тысячны нумар «Газеты Беластоцкай», якая з'яўляецца органам Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку. Газета пачала выходзіць 1 верасня 1951 года. Яе тыраж не перавышаў тады 20 тысяч. Зараз сярэдні дзённы тыраж «Газеты Беластоцкай» шмат перавышае 100 тысяч. Віншуем тады таварышоў рэдактараў і супрацоўнікаў «Газеты Беластоцкай» з нагоды іх юбілею.




**Niedziela, 10. IX.**

9.45 Program; 9.50 „Dzieło Pablo Picassa" — program z Muzeum Sztuk Pięknych w Moskwie; 10.15 „Przypominamy, radzimy"; 10.25 „Na wojskowej estradzie" — film pol.; 11.25 Dziennik; 11.35 „René Clement" („W starym kinie"); 12.35 „Egipt darem Nilu" — film NRD; 13.20 „Przemiany"; 13.50 Teatr Młodego Widza: Mark Twain: „Tomek Sawyer detektywem"; 15.10 Koncert Zespołu Pieśni i Tańca „Śląsk"; 16.00 „Obraz" („Piórkiem i węglem"); 16.20 „Paryż" — teleturniej; 17.20 Felieton literacki; 17.35 „Raptularz muzyczny" („Sezam muzyczny"); 18.20 Odsłonięcie Pomnika Lotnika w Warszawie — reportaż filmowy; 18.45 PKF; 18.55 „Słownik Wyrazów Obcych"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Paryż — Warszawa" — nowe piosenki francuskie; 20.50 „Giuseppe w Warszawie" — film fab. pol.; 22.25 „Niedziela Sportowa".

**Poniedziałek, 11. IX.**

10.25 Transmisja z obrad Sejmu PRL w obecności prezydenta Republiki Francuskiej, Ch. de Gaulle'a; 15.55 Program; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film pol.; 17.15 Dla młodych widzów: „Pod siatką"; 17.35 „Eureka"; 18.05 „W przestworzach" czyli „Ciekawe opowieści lotników"; 18.20 Sprawozdanie z obrad Sejmu PRL w obecności prezydenta Republiki Francuskiej, Ch. de Gaulle'a; 18.55 „Kino Krótkich Filmów"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.35 Teatr TV: Z. Skowroński — „Maturzyści"; 22.05 Dziennik; 22.25 Program na jutro; 22.30 Politechnika TV.

**Wtorek, 12. IX.**

8.30 „Ćmy" — film fab. fr.; 9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski: J. Bedier — „Dzieje Tristana i Izoldy"; 11.55 Dla szkół (kl. V—VI) „Życzliwość" („O miejsce wśród ludzi"); 12.30 „Przysposobienie rolnicze" — „Jak powstają odmiany roślin uprawnych"; 13.05 Przerwa; 15.05 Program; 15.10 „Przysposobienie rolnicze" — „Jak powstają odmiany roślin uprawnych"; 15.45 Politechnika TV; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Wesołe zajączki" — film radz.; 17.10 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.25 „Telekram"; 17.35 „Cena rekordu" — film dok. ang.; 18.55 TV Kurier Warszawski; 19.10 „Paryż śpiewa" — piosenki francuskie; 19.25 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 — film fab. fr.; 21.30 „Panorama literacka"; 22.00 Dziennik; 22.15 Program na jutro; 22.20 Politechnika TV.

**Środa, 13. IX.**

9.55 Dla szkół (kl. VII): „Wychowanie obywatelskie" — „Jest takie miasto..."; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: „Składanie sił"; 11.25 „Ludwiku do rondla" — film fab. jug.; 12.40 Przerwa; 15.40 Program; 15.45 Politechnika TV; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka"; 17.20 „Nie tylko dla pań"; 17.45 „Bryza"; 18.10 „Kronika Anny Magdaleny Bach" — film węg.; 18.35 Magazyn Medyczny; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Marynarka, to męska przygoda" — film estradowy pol.; 20.45 „Światowid"; 21.15 „Nowy browar" — film TV USA; 22.05 Dziennik; 22.20 Program na jutro; 22.25 Politechnika TV.

**Czwartek, 14. IX.**

9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski: „Poezja polskiego średniowiecza"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół (kl. VI) Historia — „Było to pod Grunwaldem"; 11.25 Przerwa; 15.40 Program; 15.45 Politechnika TV; 16.45 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś"; 17.20 „Kwadrans zagadek"; 17.35 „Ryba i niedźwiedź" — film („Za siedmioma górami"); 18.00 „Przegląd muzyczny"; 18.30 „Dobry wieczór, jak minął dzień"; 19.05 — Film; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr „Kobra": J. Włodan — „Szansa słabego"; ok. 21.05 „Refleksje"; 21.35 Dziennik; 21.50 Program na jutro; 21.55 Politechnika TV.

**Piątek, 15. IX.**

8.15 „Być, albo nie być" — film fab. USA; 9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Zamki i klucze"; 10.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. V) Wychowanie plastyczne „Teatr lalek"; 12.25 Przerwa; 15.30 Program; 15.35 Politechnika TV; 16.45 Dziennik; 17.00 Puchar Europy w lekkiej atletyce — finały kobiet (sprawozdanie z Kijowa); 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 TV Kurier Mazowiecki; 20.20 Program rozrywkowy Z. Lengrena; 20.35 „Druga sesja" — program Redakcji Młodzieżowej; 21.05 „Być, albo nie być" — film fab. USA; 22.35 Dziennik; 22.50 Program na jutro; 22.55 Politechnika TV.

**Sobota, 16. IX.**

10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Ssak ssakowi nierówny"; 11.25 „Dziewczęta" — film fab. radz.; 12.55 Przerwa; 14.10 Program; 14.15 TV Kurs Rolniczy: „Żyto jako poplon"; 15.00 Puchar Europy w lekkiej atletyce — finały mężczyzn (sprawozdanie z Kijowa); 17.25 Dziennik; 17.30 Program Tygodnia; 17.50 „Szkarłatne godło odwagi" — film fab. USA; 19.00 Film estradowy; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 Koncert inauguracyjny Festiwalu Muzyki Współczesnej „Warszawska Jesień"; ok. 21.00 Dziennik; 21.15 Wiadomości sportowe; 21.20 „Sześciodniówka motocykla" — sprawozdanie z Zakopanego; 21.30 „Co myślimy o Warszawie" — program rozrywkowy z Katowic, Łodzi, Krakowa i Gdańska; 23.00 „Wózek dziecięcy" — film fab. szwedzki.




**Piątek, 8 września**

14.45 Program; 14.50 Dziennik; 14.55 Język angielski dla przedszkolaków. Lekcja pierwsza; 15.15 Dla uczniów; 15.45 „Dziennikarze w walce o pokój"; 16.00 Animowany film dla dzieci; 16.10 Dziennik; 16.30 Film dok.; 17.00 Program poświęcony Bułgarii; 17.30 Koncert życzeń; 18.00 „Sztafeta nowin"; 19.00 Spektakl TV; 20.15 Tydzień Mołdawskiej SRR w Moskwie.

**Sobota, 9 września**

7.30 Język angielski dla przedszkolaków; 8.00 Transmisja defilady wojskowej z Bułgarii; 10.00 Tydzień Mołdawskiej SRR w Moskwie; 11.00 Spotkania z aktorami; 13.35 Program; 13.40 Dziennik; 13.55 „Przyjaźń na wieki"; 14.25 „Rewolucyjny pochód nauki"; 14.45 „Expo-67"; 15.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — „Górnik" (Donieck); 16.45 Dziennik; 17.00 Kronika półwiecza. „Rok 1931"; 17.50 „Klub filmowy"; 18.50 Tydzień Mołdawskiej SRR w Moskwie; 18.50 „Ogoniok"; 20.00 „Fakty — rzecz uparta"; 20.30 Program rozrywkowy z Bułgarii.

**Niedziela, 10 września**

7.55 Program; 8.00 „Budzik"; 8.30 Tydzień Mołdawskiej SRR w Moskwie; 8.50 Almanach literacki; 9.50 „Szkatułka muzyczna"; 10.10 „Od Lutego do Października"; 10.25 „Syn partii" (E. Dzierżyński); 10.55 Dla żołnierzy; 11.30 Kiosk muzyczny; 12.00 Uniwersytet Moskiewski; 12.30 „Do zobaczenia Mołdawio!"; 12.50 Film TV; 13.00 Hokej; 15.30 Program satyryczny; 16.05 Kronika półwiecza. „Rok 1932"; 17.00 „Poezja"; 18.00 Dziennik; 18.30 Film; 20.05 Podróże TV.

# У СЯБРОЎ ЛІТОЎЦАЎ

(Працяг са стар. 1)

двух агульнаадукацыйных ліцэяў вучыцца літоўскай мовы 885 вучняў. Безумоўна тут, так як і мы, беларусы, літоўцы маюць свае клопаты: справа падручнікаў, настаўнікаў, літаратуры і г.д. Але здаецца, што памалу, пад кіраўніцтвам свайго таварыства некаторыя справы ўжо прыхільна ўладжаны. Хаця б узяць справу падручнікаў, якія дзякуючы старанню ГП ЛГКТ атрымалі з Літоўскай ССР, або справа курсаў настаўнікам літоўскай мовы. Іменна дзякуючы намаганням, можа не заўсёды згодным з інструкцыяй але шчырым, ужо ў гэтым годзе ўдалося пераканаць Міністэрства асветы, каб выдэлегавала яно 15 настаўнікаў на курс у Вільнюс.

Урэшце адна з асноўных галін працы ЛГКТ — культура. Можна ўсё назваць адраджэннем літоўскага культурнага руху, але гэта не адлюстроўвае таго, што дзеецца ў літоўскім асяроддзі. На працягу 10-годдзя ў сярэднім працавала 10—17 аматарскіх калектываў, а колькасць удзельнікаў — ад 220 да 400 чалавек. Але літоўскае таварыства мае на ўвазе і апякуецца таксама і літоўскімі школьнымі калектывамі, якіх зараз налічваецца 9. Іменна ім, школьным калектывам, ужо ад двух год на возеры Сейны з нагоды Міжнароднага дня дзіцяці арганізуюцца агляды. Кожны год адбываюцца злёты літоўскіх аматарскіх мастацкіх калектываў у Бурбішках, а таксама народныя фестыны. На ўвагу заслугоўвае праца мужчынскага хору ў Вайтокем, танцавальнай групы з ліцэя ў Пуньску, а таксама калектыву песні і танца з Вроцлава. Іменна калектыў з Вайтокем гасціў сярод беларусаў і на старонках «Нівы» ў 1965 г. На плюс культурнаму жыццю літоўцаў трэба запісаць чытальніцтва кніжак. У пяці грамадскіх бібліятэках налічваецца 4652 літоўскія кніжкі, а чытальніцтва кніжак на роднай мове сярод літоўцаў найвялікшае сярод усіх нацыянальных меншасцей у Польшчы. Важным здарэннем у адраджэнні літоўскага мастацкага руху было стварэнне Дома літоўскай культуры ў Пуньску.

Гэтыя гаспадарчыя і культурныя дасягненні літоўскага асяроддзя ў Польшчы ёсць падбудаваны і абапіраюцца на арганізацыйнай дзейнасці ЛГКТ. Перад усім назіраецца яго колькасны ўзрост: 1959 г. — 680 членаў, 1962 г. — 1000 членаў, 1965—1260, а зараз — 1470 членаў.




**На здымку: Старшыня Галоўнага праўлення ЛГКТ Ольгерд Скрыпка вядзе юбілейны пленум.**

Вышэй паказаныя лікі сведчаць аб даволі высокім узроўні прыналежнасці да ЛГКТ, калі ўлічым, што на тэрыторыі Сэйненскага павета пражывае нешта больш 7 тысяч літоўцаў.

Шмат чаго можна яшчэ пісаць аб літоўцах, але хіба не ў тым справа, каб аб усім у адным матэрыяле напісаць. Аўтар здаваў сабе справу з хаатычнасці матэрыялу і многай колькасці праблем, але з нагоды юбілея нашых сяброў хацелася б аб усім нешта сказаць.

Пабываўшы ў літоўцаў аўтар дайшоў да вываду, што неабходныя кантакты БГКТ і ЛГКТ не толькі ў галіне культуры, — што літоўцы асабліва падкрэсліваюць, — але і ў многіх іншых напрамках дзейнасці таварыства. Беларусаў з літоўцамі спалучае не толькі гісторыя, але і сучаснасць.

**А. Карпюк**

---

# ВАКОЛ БЕЛАРУСКІХ СВЯТАСЦЕЙ

Англійскі вучоны Бэкер падзяліў для патрэб этналагічнага аналізу існуючыя грамадствы на два разрады: сакральныя і свецкія. Падзел даволі просты, дапамагае ён аднак многа зразумець, у тым ліку — дапамагае зразумець многія з'явы ў працэсе пераўтварэння беларускай вёскі.

Справа ў тым, што беларуская вёска спрад 50 гадоў, як нельга лепш, пасуе да ўзору «сакральнага грамадства». Усё жыццё беларускага селяніна праходзіла ў коле пераказаных традыцыяй святасцей, народная мудрасць, абрадавасць, літаратура, мараль, вераванні — усё мела характар святасцей, якіх парушэнне, зняважанне востра асуджалася грамадскасцю. Этнограф беларускага Палесся Чэслаў Пяткевіч пераказаў такую даволі навучальную размову, у якой беларускія сяляне даюць вострае маральнае асуджэнне нязгоднаму з мясцовай народнай традыцыяй выкарыстанню саломы і хляўнога гною. Вось гэтая размова:

**« — Нашы дзеды і бацькі не дарма казалі: Тым што зямля родзіць падзяліся з ёю, насца сам еш хлеб а салому аддай роднай зямельцы. Не рабі так, як не баяўшыся Бога хахол робіць: салому жарыць у печы, а гной прэ ў грэблю.**

**— Хіба ж ета праўда, што хахол так глупіць дар божы?**

**— Папытай тых, што плаваюць на плытах у Кірсон, дак яны табе скажуць, калі мне не верыш».**

Святасцю народнай традыцыі прасякнуты былі такія, здавалася б, натуральныя дзеянні, як спажыццё ежы, штодзённы туалет, спосаб адпачынку, сну і г.д.

Такім чынам вынікаўшая з нястачы суровасць сялянскага жыцця паднесена была да рангу святасці, маральнага ідэалу. Нават праца, асабліва праца ў полі, трактавалася з пашанаю, годнасцю і святасцю не меншай чымсьці царкоўныя багаслужэнні. У кожным выпадку не было гэта чыста эканамічнае дзеянне разлічанае выключна на забеспячэнне матэрыяльных патрэб. Апрацоўка зямлі, абсяванне яе і вырошчванне было ўдзелам чалавека ў рэалізацыі адвечных правоў прыроды, правоў узнікання і ўтрымання самага жыцця. У коле святасцей замкнуты быў гадавы цыкл і цыкл чалавечага жыцця ад нараджэння да смерці.

Тут можна мне зрабіць закід, што перабольшваю ролю рэлігіі ў жыцці беларускага народа, які, як вядома, ніколі не быў надта прывязаны да свайго веравызнання. Праваслаўнаму духавенству не ўдалося прывіць нават належнай пашаны да Бога, на тэму якога ў народзе было многа непрыстойных, з пункту гледжання духавенства, легендаў і жартаў.

На закід гэты адказваю: «сакральнасць беларускага традыцыйнага грамадства не ў тым, што ўсе чалавечыя дзеянні падпарадкаваны былі царкоўнай дактрыне, або ідэі ўсемагутнага Бога, але ў тым, што дзеянні гэтыя былі святасцямі самыя па сабе, былі дзеяннямі, якім этнічная група надавала найвышэйшы ранг, значэнне і пашану, гэта значыць — ранг, значэнне і пашану святасці. Усё, што рабілі і чаго вучылі дзяды і прадзеды, у гэтым выпадку — беларусы, было святым, адзіным у сваіх маральных каштоўнасцях, усё што звонку — было для беларуса дрэнным і немаральным.

Рэлігія аднак, афіцыйная царква мела вялікі ўплыў на фармаванне гэтай культуры. Уплыў гэты быў відавочны нават тады, калі — скарыстаю тут з фармальнай супярэчнасці — не было аніякага ўплыву. Вядома, што на праваслаўнае насельніцтва адносна малое ўздзеянне мела праваслаўная царкоўная іерархія і яе догмы. Надавала гэта пэўны характэрны стыль народнаму жыццю гэтых грамадскасцей, які выразна адрозніваў іх ад значна больш згуртаваных вакол касцёла грамадскасцей католікаў. «Уплыў» праваслаўя аднак на фармаванне аблічча беларускай вёскі не звёўся толькі да гэтага пасіўнага моманту — адсутнасці глыбейшага ўздзеяння хрысціянскай дактрыны на народ. Праваслаўе пакінула свой адбітак на народнай культуры ў зусім іншым плане. Але гэтаму маю намер прысвяціць асобны артыкул.

**Уладзімір Паўлючук**

---

## фальклор

# Ой паехаў улан

Ой паехаў улан
У чыстае поле,
Там дзе дзяўчына
Пшанічэньку поле.

Поле вона, поле,
Кокуоль выбірае,
Кокуоль выбірае,
Сабе размышляе:

Ты кокуоль з мятлою
Плыві з вадою,
Ярая пшаніца
Застанься са мною.

Ой прыехаў улан,
Дзяўчыні гаворыт:
— Кідай, дзяўчо, кідай
Кокуоль выбіраці,

Сцелі белу посцель
Ды лягаймо спаці!

Дзіўчо дурнэ было
Лягла, той заснула,
Улан пажартаваў,
Што яна й не чула.

Дзіўчо рана ўстала,
Як арліца в'ецца,
Улан на посцелі
Лежыт і сміецца.

Ой, Божэ мой, Божэ
Што я нарабіла:
Усёй сваёй радзіне
Неславу зрабіла.

Засмуціла ойца,
Засмуціла маці,
Засмуціла — того
Што меў мяне браці.

Запісаў **Янка Цялушэцкі** ад **Фядосі Барташук** з Лянева, гадоў 75

---

Усе ведаюць, што грамафонныя пласцінкі можна купіць у краме. Аказваецца, што зараз у Беластоку можна сабе абсталяваць грамафонную пласцінку з уласнай мелодыяй або з уласным тэкстам. Можна запісаць на пласцінку гукавы ліст або пажаданні з розных нагод сваім сваякам, знаёмым, каханай. І ўсё гэта на працягу 10 мінут часу за 12—35 зл.

У чэрвені г.г. Ян Дзямалэк адкрыў у Беластоку пры вуліцы Ліповай 4 (Дом паслуг ВЗСП) **Студыю запісу гукавых адкрытак.** Працуе яна кожны дзень ад 9—19 гадзін.

# Лісты на пласцінках



Студыя карыстаецца вялікай папулярнасцю. Заказвалі тут адкрыткі з песнямі студэнты з Мінска, якія былі ў Беластоку на практычных занятках, за песнямі прыязджалі ў Беласток жыхары Ялоўкі, Луплянкі, Крынак, Зуброў, Зубкоў, Кузніцы і з іншых вёсак.

Ян Дзямалэк ахвотна прымае заказы. Запісаць у яго можна на пласцінку ўсё. Скажам, хтосьці хоча падарыць блізкай асобе на памяць сваю фотакартачку. У студыі Дзямалка можна запісаць на гэтую фотакартачку нейкую песню або ўласны тэкст з пажаданнямі. Гэта самае можна зрабіць на кожнай адкрытцы, а нават на картцы паперы, на якой напісаны ліст.

Заказы можна афармляць пісьмова метадам паштовага разліку. Зацікаўленым падаем адрас:

Studium Nagrań pocztówek dźwiękowych, Białystok, ul. Lipowa 4. Dom Usług WZSP.

(вр)

---

# Пра культуру ў Нараўцы

Супольнымі сіламі Прэзідыума ГРН ГС-аў, Спулдзельчага банка, Надлясніцтва Броўск, Ляцкая пушча і Нараўка ў лютым гэтага года быў адкрыты ў Нараўцы так званы «Грамадскі пункт культуры». Абсталяваўся ён у былым магазіне нараўскага ГС-у. Арганізатары не толькі адрамантавалі будынак і абсталявалі яго мэбляю ды неабходнымі прыладамі, але таксама пастараліся стварыць добрыя ўмовы для культурна-асветнай працы. Глядзець тэлевізійныя перадачы прыходзяць жыхары Нараўкі і навакольных вёсак. Святліца заўсёды запоўнена людзьмі.

Пунктам кіруе энергічная, маладая і прыгожая дзяўчына **Валя Неміровіч.** Настаўніца нараўкаўскай школы **Жэня Леўша** наладзіла ў пункце асветныя заняткі на аснове праграмы **ўсеагульнага ўніверсітэта.** Асабліва вялікае зацікаўленне выклікалі гутаркі пракурора і афіцэраў міліцыі і войска. На палітычныя тэмы вялі спрэчкі работнікі Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы. На заняткі ўніверсітэта людзі прыходзілі ахвотна. Слухалі і ставілі пытанні.

З прыходам восені нараўкоўскі ўніверсітэт прадоўжыць свае заняткі. Зноў загамоняць людзі ў будынку былога гандлёвага магазіна. Займуцца більярдам, шахматамі, шашкамі, будуць глядзець тэлевізійныя перадачы, нап'юцца кавы або ліманаду. Гэта заўсёды лепш і карысней чымсьці таптацца па вуліцах або «думаць» над кубкам піва ў гаспадзе.

вр.

# ВІЗІТ ЗА БУГАМ

(Працяг са стар. 1)

варылася па-просту. Цяпер гэтая мова ўжо занікае.

На вясковай вуліцы сустракаем жанчыну. Пытаю яе пра вясельныя абрады.

— Цяпер ужо нармальна, як усюды, — гаворыць яна па-польску. — А калісьці, я яшчэ памятаю, пяклі каравай, маршалак дзяліў яго, а дружкі спявалі. Па-рознаму спявалі: і па-простаму, і па-польску. І зараз, як падап'юць, дык сванькі часта зацягнуць яшчэ нейкую старую песню на мясцовай гаворцы. Мая мама дома гаворыць па-простаму, але я крычу на яе за гэтае, бо дзеці мае ад яе вучацца і ў школе некаторыя словы гавораць не так, як трэба. Вы лепш аднак ідзіце да нашага прарока. Ён больш вам раскажа.

«Прарокам» аказаўся згорблены амаль да зямлі 75-гадовы **Шымон Яканюк.** Ён гадае сны і прадказвае будучыню. Так цвердзяць мясцовыя жыхары. Гаворыць, што ў 1926 годзе аб'явіўся яму «святый дух» і абдзяліў яго дарам «яснавідства». Шымон Яканюк жывапісна паясняе назву сваёй вёскі.

— Даўным даўно, калі яшчэ Мельнік быў вялікім горадам, тут была вёска Забалоцце. Яе спалілі татары. А людзей — каго пабілі, каго пагналі ў няволю. За караля вялікага, Казіміра, зноў пачалі людзі пасяляцца над Бугам. І з Літвы, і з Русі прыбывалі. Дык зноў напалі на іх татары і гвалт над жонкамі тварылі. Прасілі мужыкі ў іх памілавання. Але гэта не памагло. Дык сабраліся ў лесе, дагаварыліся і знянацку напалі на татараў. Сярпамі ім галавы пазрэзвалі. Пайшла тады слава ў наваколлі, што тутэйшыя мужыкі сэрпамі ліца пазнімалі татарам. І так ужо цэлую вёску пачалі **Сэрпэліцай** называць.

З высокага ўзгорка яшчэ раз любуемся жывапіснай надбужанскай катлавінай, у якой раскінулася вёска Сэрпэліца. Думаю, што шмат чаго цікавага знайшлі б тут для сябе спецыялісты па этнаграфіі і сацыялогіі. У тутэйшых вёсках на працягу мінулага паўстагоддзя, як у лабараторыі, здзейсніліся перамены, якіх дарэмна шукаць у іншых асяроддзях.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



**Сэрпэліцкі «прарок», Шымон Яканюк.**

[1]) Jan Tokarski. Gwara Serpelic. Wrocław — Warszawa — Kraków. Zakład Narodowy im. Ossolińskich. Wyd. PAN. 1964. str. 155+XV.

[2]) Без фанетычнага запісу немагчыма дакладна пераказаць вымаўлення пасобных слоў. Тут даецца іх прыблізнае гучанне.



**У Сэрпэліцах дамы драўляныя, некаторыя з іх пакрыты саламянай страхой на спосаб вельмі характэрны для беларускіх хат.**




(Працяг са стар. 1)

# СУСТРЭЧЫ З ДЗЯРЖЫНСКІМ

бранскага арсенала і вагонабудаўнічага завода. Гэта дазволіла мне ўвайсці ў сам цэнтр рэвалюцыйных змаганняў на Браншчыне. Таму незадоўга пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе **мяне назначылі начальнікам губеранскай міліцыі на Бранскую губерню.**

Пасля некалькіх месяцаў накіравалі мяне ў Маскву на палітычны курс. І там паўторна сустрэўся я з Феліксам Дзяржынскім. Ён быў у нас выкладчыкам. Яго прамовы адзначаліся прастатой і шчырасцю.

Аднойчы стаяў я на калідоры. Прышоў Дзяржынскі.

— Здароў, арол рэвалюцыі! — звярнуўся ён да мяне і пачаў распытваць: хто я, адкуль, якой нацыянальнасці і таму падобнае. А ў вочы глядзеў так, што нельга было што-небудзь схлусіць.

У выхадны дзень пайшоў я з таварышамі на прагулку ў Сакольніцкі парк. Прыселі за столік у чайной. Што ж нам, аднак, маладым чаёк! Просім тады гаспадара чайной, каб прынёс штосьці мацнейшага.

— Няма і не дазволена, грамадзяне міліцыянеры, — гаворыць гаспадар.

— Ну, не загаварвай ты нас, — кажа адзін з нашых таварышоў. — Каму трымаеш? Для контры?

Гаспадар хіба спалохаўся, бо зараз прывалок на наш столік вялізны чайнік самагонкі. Мы адразу павесялелі. Пасля гадзіны часу зноў прыбягае да нас гаспадар.

— Бяда, — кажа шэптам. — Камісар Дзяржынскі прыехаў!

Мы збянтэжыліся, але дзявацца не было куды, бо тут жа ля нашага століка паявіўся Фелікс Эдмундавіч.

— Здарова арлы! — прывітаўся. — Чым займаецеся?

— Чаёк п'ём, таварыш камісар, — адказваем хорам.

— Піце, піце, але глядзіце, каб не паатручваліся гэтым «чайком»! — сказаў Дзяржынскі, кладучы націск на слова «чаёк», і пайшоў сваёй дарогай. Думалі мы, што без выгавару не абыдзецца. Але на другі дзень Фелікс Эдмундавіч нават словам не ўспомніў пра наш учарашні «чаёк».

Пасля насталі цяжкія для маладой Савецкай Дзяржавы 1919 і 1920 гады. Я пайшоў на фронт. Быў камісарам 52 батальёна пяхоты.

У 1920 годзе за парадай Дзяржынскага партыя паслала мяне фарміраваць **Першы чырвоны польскі полк пяхоты.** Камандзірам яго быў палкоўнік Штарк. Мяне прыдзялілі на пасаду камісара палка. Наш полк меў быць асновай польскай рэвалюцыйнай арміі. Камандзірам яе быў Лонгва. Полк фарміраваўся ў Бабруйску. У яго ішлі перш за ўсё палякі і беларусы — бежанцы з Польшчы. Мы рыхтаваліся дзеля таго, каб прыйсці на дапамогу Польскаму Рэвалюцыйнаму Камітэту, які тады заснаваўся ў Беластоку. Да нашых салдат у Бабруйск прыязджалі: Дзяржынскі, Мархлеўскі, Фелікс Кон і Караль Свярчэўскі.

Ваяваць у Польшчы нам не давялося. У 1920 годзе ўстанавілася трывалая граніца між Польшчай і Саветамі. Наш польскі чырвоны полк расфарміравалі. Я трапіў у Чырвоную Армію і стаў камандзірам трэцяга батальёна 21 палка. Пад канец 1920 года ў баях з Врангелем на Дану я атрымаў цяжкую рану. Пасля доўгага лячэння паехаў у Маскву да Дзяржынскага прасіць, каб адпусціў мяне ў Польшчу.

— Там у мяне бацькоўскі дом астаўся, — гавару Феліксу Эдмундавічу.

— А тут што, мала табе дамоў? — кажа ён. — Прызнайся лепш, што ўжо надаела табе, таварыш Касікоўскі, змагацца за ўладу Саветаў!

— За нашу справу можна змагацца таксама ў Польшчы, — гавару яму.

І Фелікс Эдмундавіч мяне адпусціў.

Такім чынам Язэп Касікоўскі апынуўся назад у Беластоку. Тут адразу замкнулі яго ў турму. Але і гэта не зламала яго. Заўсёды аставаўся актыўным рэвалюцыйным дзеячом.

А жыццё праходзіла яму не лёгка. Брат Аляксандр загінуў у баях з Врангелем пад Перакопам. Другія браты і сёстры (было іх разам 7) таксама недзе прапалі ў грамадзянскую вайну. Меў двух сваіх сыноў. Аднаго кантужыла ў 1939 годзе, калі немцы бамбілі Беласток, а другі — малады, палітычны афіцэр Войска Польскага і здольны мастак — памёр дачасна ўжо пасля вайны. Язэп Касікоўскі паказвае яго здымкі і бацькоўская слязінка коціцца яму па твары.

— Я сам астаўся, — гаворыць цяжка ўздыхаючы. — І толькі радасці, што людзі пра мяне не забываюць. Вось, — паказвае характэрныя савецкія канверты, — пастаянна пішуць да мяне піянеры з Бранска. «Чырвоныя следапыты» адшукалі мой адрас і цяпер вядзем перапіску. Расказаў я ім пра тое, як мы на Браншчыне ўстанаўлялі савецкую ўладу, а яны цікавяцца маім жыццём, пытаюць пра здароўе. Прыемна мне гэта старому.

**Максім Нурэцкі**
Фота аўтара

**Беларусіяна**

## ПСАЛТЫР СІМЕОНА ПОЛАЦКАГА

Псалтыру Сімеона Полацкага, выдадзенаму ў 1680 годзе, прысвечаны артыкул Станіслава Кароляка пад загалоўкам „System temporalny w „Psałterze rymowanym" Szymona Połockiego" змешчаны ў VI томе „Slavia Orientalis". У гэтым артыкуле аўтар аналізуе мову псалтыра Сімеона Полацкага і яе сувязь з аднаго боку з жывою моваю таго часу, а з другога — з царкоўна-славянскай традыцыйнай кніжнай мовай.

(п)




### Зноў сумятня

Калі Джонсаны прайшлі да адведзенага ім бокса, ім здавалася, што яны ва ўнутранай частцы шпіталя. На самай жа справе яны апісалі вялікі круг. Калі б шторы на адзіным акне палаты былі падняты, яны ўбачылі б, што стаяць за некалькі футаў ад гаража санітарных машын.

Бокс № 13 аддзялення для лёгкахворых быў самым ціхім месцам на паверсе. Але ён не быў заняты толькі таму, што знаходзіўся блізка да ўваходу ў аддзяленне хуткай дапамогі. Гэта было не зусім тое, што меў на ўвазе Янгблад, калі папрасіў адвесці яму спакойнае месца. Калі б за картэжам да шпіталя пайшоў другі забойца, то шанцаў на поспех у яго было б шмат.

Джонсан стаяў прысланіўшыся шырокімі плячыма да глухой сцяны, і дыхаў праз інгалятар, які заўсёды насіў з сабой, каб прачышчаць дыхальныя шляхі. Пані Джонсан сядзела, прысланіўшыся да другой сцяны і наглядала за ім.

— Мы з Лінданам маўчалі, — успамінала яна пазней. — Мы проста глядзелі адзін на аднаго, перагаворваючыся вачыма. Мы ведалі, чым гэта ўсё магло скончыцца.

Джонсан паслаў за агентам Роем Келерманам.

— Рой, ты можаш нам сказаць, у якім стане прэзідэнт? — спытаў Джонсан.

— Прэзідэнт Кенедзі паранены, — паведаміў Келерман. — Ён усё яшчэ жывы, але ў вельмі цяжкім стане.

— Трымай мяне ў курсе.

— Слухаю, сэр.

І Келерман сапраўды збіраўся стрымаць сваё абяцанне, але яму так і не давялося быць тут яшчэ раз. Калі ён вярнуўся ў хірургічнае аддзяленне, на яго звалілася куча спраў.

Кен О'Донел заглянуў у бокс № 13.

— Справа дрэнь, — сказаў ён. — Думаю, што прэзідэнт памёр.

Джонсан нічога не адказаў.

Адзін з агентаў прынёс Джонсанам кофе. Пані Джонсан, якая заўсёды мела пры сабе запісную кніжку, у якую заносіла ўсе, як яна гаварыла, «незабыўныя моманты», дастала яе з сумачкі і ўзялася хутка запісваць свае ўражанні.

Агент Робертс расказаў Джонсану, што бачыў рану, атрыманую Кенедзі ў галаву.

— Прэзідэнт не выжыве, — сказаў ён. — Трэба ехаць адсюль.

— Мы нічога не ведаем пра маштабы ўсяго гэтага, — сказаў Янгблад. — Мы павінны неадкладна адсюль паехаць.

— У Карсуэл можна? — няўпэўнена спытаў Джонсан, маючы на ўвазе базу камандвання стратэгічнай авіяцыі непадалёку ад Форт-Уорта.

Янгблад паслаў агента Леме Джонса даведацца ў мясцовага паліцэйскага, як туды праехаць, але калі Джонс вярнуўся, усе згадзіліся, што да базы занадта далёка.

— Мы павінны падняцца ў паветра, — настойваў Робертс.

Джонсан, які ўсё яшчэ вагаўся, сказаў:

— А магчыма самалёт спатрэбіцца прэзідэнту Кенедзі?

Ніхто не спытаў, які самалёт ён меў на ўвазе. Уся размова ў боксе № 13 грунтавалася на здзіўляючай здагадцы, што на аэрадроме Лаўфілд стаяў толькі адзін «Боінг-707». У сапраўднасці там усё было па старому. Ні прэзідэнцкі самалёт 26 000, ні віцэ-прэзідэнцкі самалёт 86 970 нават не крануліся з месца. Абодва мелі аднолькавую апаратуру, абодва ахоўваліся. І тым не менш з гэтага моманту пра другі самалёт забыліся. Джонсан і яго агенты думалі толькі пра 26 000, самалёце «ВПС-1», які атоесамліваўся з імем Джона Ф. Кенедзі. Джонсан не хацеў рабіць уражання саманадзейнага чалавека і заявіў агентам, што не кранецца з месца без санкцыі аднаго з бліжэйшых супрацоўнікаў Кенедзі, лепш за ўсё Кена О'Донела. Робертс знайшоў О'Донела ў аперацыйнай.

— Джонсан хоча ехаць, — сказаў ён — Ён можа выкарыстаць самалёт?

О'Донел кіўнуў, і Робертс далажыў Джонсану:

— Кен гаворыць, што ўсё ў парадку.

Джонсан усё яшчэ чакаў. Затым, у 13—13, Эмары Робертс паведаміў яму:

— Прэзідэнт памёр, сэр.

Узрушаны Джонсан павярнуўся да жонкі:

— Заўваж час. — Потым дадаў. — Мы едзем. Паспрабуем паехаць, прыцягваючы як мага менш увагі.

Янгблад загадаў агенту Джонсу:

— Дастань машыну без спецыяльных апазнавальных знакаў і знайдзі паліцэйскага, які ведае Далас, як свае пяць пальцаў.

— Я павінна пабачыць пані Кенедзі і Нэлі, — сказала пані Джонсан. Яе муж не толькі згадзіўся, ён хацеў суправаджаць яе. Янгблад усё яшчэ камандаваў абстаноўкай і катэгарычна заявіў новаму прэзідэнту, што той не можа выходзіць з гэтага памяшкання.

(Працяг будзе)

**ШТО ЧЫТАЦЬ?**

# АПОВЕСЦЬ ПРА СУЧАСНУЮ ВЁСКУ

Пісьменніца Марыя Шулецкая пастаянна жыве ў Варшаве. Добра аднак ведаюць яе жыхары многіх раёнаў Беласточчыны. У Райск і Дэніскі, Бельскага павета, прыязджала яна шукаць матэрыялаў да аповесці аб дзейнасці КПЗБ і савецкіх партызанаў. (Гэтую аповесць незадоўга выдасць Люблінскае выдавецтва). У многіх іншых вёсках Беластоцкага ваяводства Марыя Шулецкая пабывала на аўтарскіх сустрэчах. Трывалыя кантакты завязаліся ў яе, для прыкладу, з моладдзю ў Круглым Ляску, Беластоцкага павета.

У ліпені г.г. Лодзінскае выдавецтва выдала аповесць Марыі Шулецкай **«Чаромуха пахне горка».** Гэта аповесць пра сучасную вёску. Яе дзеі адбываюцца недзе пад Кутнам у Лодзінскім ваяводстве. Аднак справы і праблемы, якія кранае пісьменніца, можна наглядаць у кожнай іншай вёсцы нашай краіны. Ідучы за сваімі героямі пісьменніца штораз пераносіць чытача з аднаасобніцкай вёскі ў спулдзельню прадукцыйную, а адтуль — у ПГР і сельскагаспадарчы гурток; з партыйнага сходу — у засценкі ксендзавага парафіяльнага дома, з вясковай забавы на вечарынкі, вяселле, ці хрысціны. А ўсё гэта на фоне жывапіснага возера з вострабам пасярэдзіне, дзе хлопцы дамаўляюцца з дзяўчатамі на інтымныя сустрэчы.

Агульна кажучы, гэта перш за ўсё праблемы змагання новага з адсталасцю і кансерватызмам сялян, уплыў рэлігіі і забабонаў на звычаі і псіхіку людзей, жыццё вясковай моладзі і яе маральныя прынцыпы.

Галоўным героем аповесці «Чаромуха пахне горка» з'яўляецца даваенны батрак, а цяпер член спулдзельні прадукцыйнай Браніслаў Канопка і яго кульгавая і таму нешчаслівая, дачка Гэлена. Бацька вельмі кахае сваю дачку, хацеў бы як найлепш забяспечыць яе будучыню. Нават распачаў будаваць новы дом з думкай аб дачцы, пакрыўджанай лёсам.

Гэлене ўсе дакучаюць, ніхто не хоча з ёю сябраваць, а кавалеры зусім не звяртаюць на яе ўвагі. Аднак з войска вяртаецца Сташэк — вясковы хуліган. Ён для «жарту» заводзіць знаёмства з Гэленай. Гэлена верыць, што Сташэк яе кахае. Ён нават туманіць яе, што хоча жаніцца, але ў пасагу патрабуе ўсю гаспадарку яе бацькі. Канопкава зямля аднак у спулдзельні. Канфлікт канчаецца трагічна. Як? Гэта ўжо знайсці можна ў аповесці.

Напісана яна простай, зразумелай мовай, з вялікім адчуваннем гумару і знаёмствам вясковага асяроддзя, яго звычаяў і псіхалогіі. Варта яе прачытаць.

(вр)



**Пісьменніца Марыя Шулецкая на аўтарскай сустрэчы ў Круглым Ляску, Беластоцкага павета.**

**Фота аўтара**

# Нялагернае лета ў Сакольскім

Нялагернае лета ў Сакольскім павеце пашырыла, у мінулыя канікулы, сваю дзейнасць. Працавала тут 504 групы нялагернага лета, якія ахоплівалі 5788 дзяцей. Неабходна пры гэтым сказаць, што з кожным годам тут палепшваецца «кадра» непасрэдных арганізатараў груп нялагернага лета — старэйшых гарцэраў. Камэнда гуфца ЗГП у Саколцы, каб магчыма лепш дапамагчы ў працы групам нялагернага лета, арганізавала станіцы, з якіх гарцэры пазычалі патрэбныя палаткі, прылады да іграў і іншыя.

Аб вельмі добрай падрыхтоўцы арганізатараў груп сакольскім гуфцам сведчыць тое, што кожная з груп сарганізавала прынамсі па тры мерапрыемствы. Паасобныя звенні збіраліся разам, праводзілі спартыўныя ігры, вучыліся гарцэрскіх песень, гулялі ў шашкі і шахматы і іншыя.

Але не толькі гульнямі займаліся сакольскія гарцэры. Яны актыўна ўключаліся да знішчання каларадскага жука. Звяно **Генрыха Супрановіча з Копнай Гары** два разы прычынілася да пагашэння пажару лесу. **Аліна Сочка з Сакалды** ўратавала 4-охгадовае дзіця, якое тапілася ў рэчцы. Фактычна найлепшымі ў «нялагерным леце 1967» аказаліся звенні з раёна **Сакалды і Малявіч.** Арганізавалі яны мерапрыемствы не толькі дзецям, але і ўзрослым свайго раёну, часта запрашаючы прысутных настаўнікаў.

Аб гэтым паінфармаваў нас намеснік каменданта ЗГП у Саколцы **Ежы Вежбіцкі.** (к)






**«Гутаркі па роднай гісторыі» цалкам згодны з «Матэрыялам навучання айчыннай гісторыі ў пачатковых школах з беларускай мовай навучання і пачатковых школах з дадатковым навучаннем беларускай мовы», зацверджанымі Міністрам асветы і вышэйшых навучальных устаноў загадам ад 23.XII.1966 года (змешчаным у «Ніве» ад 19 сакавіка 1967 года). У апрацоўцы «Гутарак» іх аўтар абапіраўся на фундаментальныя працы з гісторыі Беларусі, апублікаваныя Акадэміяй навук БССР («Гісторыя Беларускай ССР», АН БССР, Мінск, 1961), гісторыі Польшчы, апублікаваныя дзяржаўным навуковым выдавецтвам („Historia Polski", PWN, Warszawa, 1958) і шматлікія паасобныя працы, якія былі апублікаваны ў Народнай Польшчы і Савецкай Беларусі. Усе тэмы «Гутарак» поўнасцю адпавядаюць тэмам праграмы.**

**Навучанне гісторыі Беларусі павінна адбывацца на ўроках беларускай мовы і гісторыі настаўнікам гэтых жа прадметаў з вельмі дакладным улікам і спасылаючыся на тое, што моладзь пазнала на ўроках па гісторыі Польшчы і свету.**

**Рэкамендуецца ўрокі па гісторыі праводзіць у пятым класе не часцей, як раз у месяц (трэба зрэалізаваць усяго 5 тэмаў на працягу ўсяго навучальнага года). У школьным навучальным годзе 1967/68 у шостым класе гэтыя ўрокі рэкамендуецца весці часцей, чым у пятым класе, каб паспець зрэалізаваць праграму пятага і шостага класа на працягу года (усяго 12 тэмаў). У сёмым класе рэкамендуецца ў гэтым навучальным годзе ўрокі па гісторыі Беларусі праводзіць не радзей, чым два разы ў месяц, каб магчы паспець зрэалізаваць праграму пятага, шостага і сёмага класаў. У восьмым класе пажаданым было б праводзіць занняткі па гісторыі Беларусі паскораным тэмпам, звяртаючы ўвагу на найбольш важныя падзеі, але ў храналагічнай паслядоўнасці, так, каб за год зрэалізаваць праграму пятага, шостага, сёмага і восьмага класаў. Пры гэтым трэба імкнуцца зрэалізаваць да 1 студзеня 1968 года матэрыял пятага, шостага і сёмага класаў, а ад 1 студзеня 1968 года пачаць рэалізаваць праграму восьмага класа. Аднак праводзіць заняткі ў гэтым навучальным годзе па гісторыі Беларусі ў восьмым класе рэкамендуецца не часцей, як адзін раз у тыдні.**

**Праграму навучання гісторыі Беларусі ў чацвёртым класе неабходна рэалізаваць на аснове і абапіраючыся на падручнік (чытанку) «Беларускае слова для чацвёртага класа». У ім трэба шукаць матэрыялу да паасобных тэмаў праграмы ў чытанках і артыкулах.**

**Настаўнікі і вучні павінны рэгулярна выпісваць, збіраць і камплетаваць усе нумары «Нівы». Гэта забяспечыць іх у дапаможны матэрыял па гісторыі Беларусі на працягу ўсяго навучальнага года.**

**«Гутаркі па роднай гісторыі» будуць друкавацца храналагічна (паводле праграмы) ў кожным нумары «Нівы».**

# УВАГА, настаўнікі і вучні

**У наступным нумары пачнем друкаваць таксама чытанку для VI класа «Мір нам патрэбен», якая выйдзе ў кніжным выданні ў наступным годзе.**

## ПЛЯМЁНЫ ЎСХОДНІХ СЛАВЯН

На ўсходзе Еўропы здаўна жылі шматлікія плямёны ўсходніх славян. Яны займалі аграмадныя прасторы зямель ад Ладажскага возера на поўнач да ніжняга цячэння рэк Дняпра і Днястра на поўдні; ад верхняга цячэння ракі Волгі на ўсходзе да Карпацкіх гор і верхняга і сярэдняга цячэння ракі Буга на захадзе. Па паходжанню, мове і занятках усе яны былі сабе сваяцкімі. Аднак кожнае з гэтых плямёнаў рознілася ад іншых сваімі звычаямі, вераваннямі, асаблівасцямі мовы і займала адну суцэльную тэрыторыю.

У вярхоўях рэк Дняпра, Заходняй Дзвіны і Волгі жыло племя крывічоў. Па сярэдняму цячэнню Заходняй Дзвіны, па рацэ Палаце, жылі палачане — пазнейшае адгалінаванне крывічоў. Іх галоўны горад — старажытны Полацк. На поўдзень ад крывічоў, па рэках Прыпяці, верхняму цячэнню Нёмана, Бярэзіне размяшчалася племя дрыгавічоў. Галоўнымі іх гарадамі былі: Тураў, Берасце (Брэст), Гродна, Мінск, Клецк, Слуцк. На ўсход ад дрыгавічоў, над ракою Сожам, жыло племя радзімічаў. Галоўным іх горадам быў Гомель.

Дрыгавічы, заходняя частка крывічоў (палачане) і радзімічы з'яўляюцца продкамі беларускага народа.

На поўнач і ўсход ад іх жылі славяне, вяцічы, северане. Яны разам з паўночнай і ўсходняй часткамі крывічоў увайшлі ў склад рускага народа.

На поўдзень ад беларускіх плямёнаў жылі валыняне, драўляне, паляне і ўглічы. На іх землях узнік украінскі народ.

Усходнеславянскія плямёны жылі ў селішчах і гарадзішчах. Селішчы знаходзіліся сярод лясоў, лугоў, поля. Іх жыхары займаліся абробкай зямлі, гадоўляй хатняй жывёлы, бортнічаствам, рыбнай лоўляй, паляваннем. Гарадзішчы гэта былі ўмацаваныя месцы. Яны паўставалі на высокіх берагах рэк, азёр, балот. Вакол іх насыпаліся земляныя валы, пракопваліся равы, узводзіліся высокія драўляныя сцены. Гарадзішчы для навакольнага насельніцтва служылі схо вішчам ад ворагаў, месцам народных сходаў і абмену вырабамі і прадуктамі. З цягам часу ў іх стала жыць пляменнае старшынства, жрацы, а вакол яго рамеснікі.

Нашыя продкі вырошчвалі пшаніцу, проса, боб; гадавалі кароў, свіней, коз, авечак, коней. Выплаўлялі з балотнай руды жалеза і выраблялі з яго сярпы, нажы, шылы, сякеры, зброю і іншыя прадметы. Яны апрацоўвалі медзь, косць; з дрэва і гліны выраблялі посуд, гарбавалі скуры; займаліся прадзівам і ткацтвам.

Усходнія славяне ахвотна выменьвалі са сваімі бліжэйшымі і далейшымі суседзямі збожжа, воўну, лён, футры, воск і мёд на бронзу, янтар, зброю, тканіны і ўпрыгожанні.

Нашыя продкі веравалі ў бога маланкі і грому Перуна — апекуна вояў; у багоў сонца Хорса і Дажджбога, якія мелі спрыяць дастатку; Стрыбога, які ўважаўся за бога вятроў; Велеса, які лічыўся апекуном хатняга дабытку і гандлю; Купалу — спрыяльніка здароўя і ўраджаю і іншым багам. На высокіх месцах і ў гарадзішчах ставіліся іх драўляныя статуі і жрацы адпраўлялі малебны.

У канцы VIII і на пачатку IX стагоддзяў на беларускіх землях узніклі два вялікія княствы палачан і дрыгавічоў.

Княства палачан паўстала на землях крывічоў, якія жылі па рацэ Заходняй Дзвіне. У яго склад уваходзіла частка дрыгавічоў, што жылі па рацэ Бярэзіне. Гэта было абшырнае і сільнае княства. Горад Полацк быў яго сталіцай. Уладаў гэтым княствам князь Рогвалад. Мужным палачанам даводзілася часта змагацца супроць ваяўнічых норманаў («норман» — паўночны чалавек), якія прыплывалі ў Полацкую зямлю са Скандынавіі, каб паланіць яе і рабаваць.

Княства дрыгавічоў займала абшырныя землі паміж рэкамі Нёманам і Прыпяццю. Яго сталіцай быў горад Тураў. Панаваў у ім легендарны князь Тур.

У тым жа часе на землях невялічкага племені радзімічаў таксама складвалася сваё княства. Аднак канчатковаму яго сфармаванню перашкодзілі хазары — качэўныя стэпавыя плямёны, — яны на некаторы час запаланілі радзімічаў.

*Пытанні і заданне*

*1. Пакажыце на карце, дзе жылі крывічы (палачане), дрыгавічы і радзімічы.*

*2. Чым займаліся нашыя продкі?*

*3. Якія вы ведаеце княствы на беларускіх землях? Знайдзіце на карце іх сталіцы.*

# „ЧАЛАВЕК-АМФІБІЯ"? МАГЧЫМА...

### НАВОШТА НАМ МОРА?

Вучоныя лічаць, што акіян нядоўга зможа забяспечыць чалавецтва ўсім неабходным для жыцця і працвітання на зямлі. Іменна таму праблема пранікнення чалавека ў мора не менш важная, чым у космас.

На працягу тысячагоддзяў людзі бачылі толькі два спосабы перамагчы сваю непрыстасаванасць да вады: удыхаць паветра па трубцы з паверхні або ўзяць пад ваду вялікі запас паветра. Гэта і былі першыя крокі ў стварэнні вадалазнай амуніцыі.

Ж. Куста даказаў магчымасць своеасаблівай акліматызацыі (прывыкання) чалавечага арганізма да жыцця пад вадой.

Аднак канструктары і даследчыкі прапануюць зусім іншыя шляхі пранікнення чалавека ў глыбіні акіяна, якія цяпер бадай, гучаць гэтак жа фантастычна, як і ідэі выкарыстання акваланга многа гадоў назад.

### ЗАМЕСТ АКВАЛАНГА ЖАБРЫ!

Кісларод патрэбны арганізму або пастаянна, або перыядычна, і тут прыроду пакуль што перамагчы не ўдалося. Але ці так ужо абавязкова ўдыхаць яго разам з азотам або якім-небудзь іншым інертным газам? Можа яго ўводзіць адразу ў кроў?

І вось Жак Іў Куста прапануе пераймаць рыб больш смела, чым гэта рабілася да гэтага часу. Ён лічыць, што ў далейшым магчыма хірургічным шляхам падключыць да крываноснай сістэмы чалавека спецыяльны апарат тыпу жабраў, які ўзамен лёгкіх будзе насычаць кроў неабходнай колькасцю кіслароду. Усе паветраныя поласці ў арганізме прапануецца запоўніць нейтральнай вадкасцю. Над увасабленнем гэтай смелай ідэі цяпер працуюць многія спецыялісты.

Не выключана магчымасць, што ў далейшым будуць знойдзены матэрыялы блізкія па сваіх якасцях да жабраў рыб. Устаноўлена, што плёнка з сіліконавай гумы лёгка прапускае малекулы кіслароду і іншых газаў.

Амерыканскія вучоныя правялі цікавы дослед: пасадзілі ў камеру з сіліконавай гумы хамяка і змясцілі яго ў акварыум. Жывёліна не адчувала ў ёй ніякіх нязручнасцей.

### МОЖА ДАПАМОГУЦЬ... КІТЫ?

У вырашэнні праблемы жыцця чалавека пад вадой прыцягвае ўвагу і яшчэ адзін шлях, падказаны... кітамі і ластаногімі. Уважлівае вывучэнне іх марфалогіі і фізіялогіі паказала, што ў прынцыпе магчыма стварыць у арганізме чалавека ўмовы, набліжаныя да тых, што ёсць у «жыхараў» акіяна ў момант іх глыбакаводнага пагружэння.

Цяпер высвятляюцца два асноўныя напрамкі па гэтай праблеме. Першы — як гэта не гучыць парадаксальна — адмаўленне ад дыхання пад вадой наогул. Кіты ідуць у глыбіню з пэўным запасам паветра ў лёгкіх, што ліквідуе небяспеку кесоннай хваробы і забяспечвае хуткае ўсплыванне. Гэта ж акалічнасць, напэўна, дапамагае ім пазбягаць і «глыбіннага ап'янення». Але адкуль жа яны бяруць кісларод? Аказваецца, назапашваюць яго ў час актыўнай вентыляцыі паветра на паверхні вады.

Спробы насычаць арганізм чалавека кіслародам перад пагружэннем робяцца ўжо цяпер. Нават простае ўдыханне чыстага кіслароду на працягу некалькіх мінут дае магчымасць павялічыць час знаходжання пад вадой. Але гэта толькі першыя крокі. На чарзе распрацоўка спецыяльных фармацэўтычных прэпаратаў, якія дазволяць назапашваць у арганізме чалавека перад ныраннем значную колькасць кіслароду, здольную забяспечыць работу мышц на многія дзесяткі мінут.



**Над залівам у Мар дэл Плата (Аргенціна) створаны Інстытут марское біялогіі. На здымку агульны від заліва, дзе праводзяцца доследы акіянскіх глыбінь.**




### ВОЦАТ

Часта мы, здаецца, усё ведаем пра рэчыва. Скажам, воцат — прыправа да селядца або пельменяў. Але ў хатняй гаспадарцы ён спатрэбіцца і для многіх іншых мэт.

Напрыклад, каб:

асвяжыць зяленіва, яго карысна пакласці на гадзіну ў халодную ваду, падліўшы ў яе сталовую лыжку воцату;

на бульбе, якая варыцца, не паяўляліся сінія плямы, у ваду дадаюць крыху воцату;

ліквідаваць непрыемны пах рыбы або селядца з рук і пасуды, іх мыюць вадой, у двух літрах якой растворана адна сталовая лыжка воцату;

ачышчаныя грыбы не пачарнелі, іх кладуць у падсоленую ваду, дадаўшы крыху воцату;

не чарнелі рукі пры чыстцы маладой бульбы, іх папярэдне змочваюць воцатам і даюць высахнуць, не выціраючы; бульбу і гародніну абіраюць нажом з нержавеючай сталі;

ліквідаваць спецыфічны пах хлеба ў шафе, яго сценкі рэгулярна праветрываюць і праціраюць шматком, змочаным у воцаце;

зняць накіп са сценак эмаліраванай пасуды, у ёй кіпяцяць паўтары-дзве гадзіны ваду, у літры якой змяшчаецца пяць сталовых лыжак або дзве чайныя лыжкі воцатнай эсенцыі;

цырата не растрэсквалася, яе праціраюць сумессю воцату і малака;

зняць іржавыя падцёкі з эмаліраваных рэчаў, іх праціраюць тампонам, змочаным у воцаце;

у расчыненае акно не ўляцелі мухі, аконныя рамы замазваюць воцатам;

губка будзе, як новая, калі яе патрымаць на працягу некалькіх гадзін у воцаце і прапаласкаць у цёплай вадзе.




### СЕАНС

Калі Аня села каля радыста, Берг выйшаў з пакоя, позіркам паклікаў за сабою Швальба.

— Слухайце, — сказаў ён, — я хвалююся. У вас няма гарэлкі? Выпіць нам трэба.

— Зараз я пашлю.

Швальб пайшоў у дзяжурку і сказаў унтэрафіцэру, што сядзеў ля тэлефона:

— Пашліце каго-небудзь у афіцэрскі клуб, няхай прынясе гарэлкі і чаго-небудзь цікавага на вячэру.

— Слухаюся.

— Так, калі руская папросіцца ў туалет, адвядзіце яе ў зялёны ўмывальнік.

— Ясна.

Берг стаяў на версе і ціха трыумфаваў: Швальб сябе ўгробіў. Калі руская ўцячэ, тады гэты дзяжурны дасць паказанні, што Швальб загадаў прынесці гарэлкі і адвесці рускую ў салдацкі ўмывальнік. Калі Швальб вярнуўся, Берг сказаў:

— Праз пяць мінут пачатак. Ідзіце за ёй.

Ён пачакаў, пакуль Швальб скрыўся ў цемры, і хутка выйшаў з параднага. Было цёмна. Берг пайшоў у маленькі зялёны ўмывальнік, схаваўшы ў кішэні абцэнгі.

* ✲ *

...Аня ўся здранцвела, пачуўшы далёкія пазыўныя Барадзіна. Перад ёй на стале ляжала радыёграма, якую яна зараз, на вачах у трох немцаў, павінна перадаць Барадзіну. Яна павінна перадаць доўгія калонкі хлусні: пра рух неіснуючых дывізій, пра будаўніцтва міфічных аэрадромаў, пра змену танкавых палкоў, пра тое, што яны чакаюць яшчэ людзей з цэнтра для разгортвання працы.

Пасля гэтай яе шыфроўкі Барадзін даложыць начальніку штаба фронта, той разбудзіць камандуючага, маршал у сваю чаргу пазвоніць у Стаўку, і заўтра ўжо сюды супраць неіснуючых танкавых дывізій СС і новых аэрадромаў будуць перакінуты нашы падмацаванні і, такім чынам, аголены той участак фронта, які фашысты выбралі для ўдару.

У пакой увайшоў Берг.

— Гатова? — спытаў ён. — Яны там чакаюць.

Аня адразу ўявіла Барадзіна, які, напэўна прыйшоў да радыстаў, таму што хвалюецца: колькі дзён Віхор маўчыць, што здарылася?

— Ну, ну, — сказаў Берг, — мы трацім час. «Зараз яна расчуліцца, — падумаў ён. — Добра, што я ў пару схамянуўся. Няма людзей, больш сентыментальных, чым разведчыкі, закінутыя ў тыл да праціўніка, асабліва пасля правалу».

Берг кіўнуў Ані галавой і яна пачала адстукваць тэкст. І чым далей яна адстуквала гэтыя цыфры, тым большая ў ёй падымалася хваля ўдумлівай гадлівасці да сябе самой.

Яна перадала ўвесь тэкст і спынілася пры подпісу «Аня» — на выпадак правалу было дамоўлена «Маня». Швальб палажыў ёй руку на плячо і ў роўнай меры нечакана і для Берга і для дзяўчыны сказаў па-руску:

— Не ўздумайце жартаваць, Анечка».

* ✲ *

Яны ўжо шмат выпілі. Берг пасля гарэлкі пабялеў. Швальб, наадварот, расчырванеўся, рухі яго зрабіліся нясկладна быстрымі.

— Я, як ніколі раней, веру ў нашу перамогу, — гаварыў ён, — як ніколі раней!

— Мяне захапляе ваш цудоўны аптымізм, — сказаў Берг. — Калі б мне зараз не трэба было ехаць да шэфа, я бы выпіў яшчэ гарэлкі.

— Едзьце заўтра. Усё роўна прыедзеце са шчытом.

— Па-першае, не я, а мы прыедзем са шчытом. Я ніколі не аддзяляю сябе ад тых калег, разам з якімі праводжу аперацыі, а па-другое...

Швальб зарагатаў:

— Значыць, вы не аддзяляеце сябе і ад вашага сябра Канарыса?!

— Вы перабралі, — сказаў Берг і ўстаў з-за стала, адчуўшы, што сам лёс памагае яму неадкладна паехаць. — Вам лепш праспацца, Швальб.

— Я пажартаваў, палкоўнік...

— Так жартуюць блазны.

— Што, што?

Берг пайшоў.

Швальб нешта крыкнуў яму ўслед, але Берг не павярнуўся: ён зайшоў да радыстаў, узяў папку з радыёграмай, выйшаў на панадворак, сеў у аўтамабіль і паехаў.

Усё далейшае пацвердзіла яго ацэнку характару і тэмперамента Швальба: той сапраўды выклікаў дзяжурнага ўнтэра, пасля таго, як дасмактаў бутэльку, і сказаў:

— Я вярнуся гадзін праз дзве. Я — да дзяўчат.

Аня пастукала ў дзверы. Калі ўнтэр адчыніў дзверы, яна сказала:

— Я павінна пагаварыць з оберстам Бергам.

— Ду-ду, — унтэр прасігналіў галасам. — Нет. Уехаль.

Аня пахадзіла па пакою, а потым зноў пастукала ў дзверы і сказала:

— Туалет. У туалет хачу. Фарштэйст? Памыцца...

Унтэр кіўнуў галавой і павёў Аню ў зялёную будку. Аня зачынілася там, а ён, як яму загадаў Швальб, астаўся пільнаваць яе.

Шэф гестапа сказаў:

— Мой дарагі Берг, не звяртайце на яго ўвагі. Усё гэта глупства ў параўнанні з той перамогай, якую мы з вамі атрымалі ў паядынку з рускай разведчыцай. Я неадкладна адпраўлю данясенне ў Берлін.

— Спадзяюся, вы разумееце, чаму я такі педантычны да гэтага п'янага жарту? — сказаў Берг.

— Чаму п'янага?

— Ён быў п'яны, вельмі п'яны.

У гэты час зазваніў тэлефон. Шэф гестапа сказаў:

— Выбачайце, палкоўнік.

Зняў трубку. Па тым, як ён слухаў тое, што яму гаварылі, Берг зразумеў: руская ўцякла. Ён не памыліўся. Шэф гестапа закрычаў:

— Дзе Швальб? Што? Неадкладна знайсці яго! Аб'явіце трывогу! Падымі-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЛЕТА Ў КРЫВЯЦІЧАХ

Добра была выкарыстана святліца. Крывяцічам зайздросцяць нават навакольныя вёскі. Кожную нядзелю адбываюцца патанцоўкі. Вельмі шкада, што няма ў Крывяцічах клуба «Рух». Занепала апошнім часам дзейнасць ЛьЗС і гуртка БГКТ. Віна за гэта спадае на нашу неарганізаваную моладзь. Таксама няма арганізатара сярод моладзі. Каб яшчэ лепш выкарыстаць святліцу, можна туды перанесці кіно, якое высвятляецца ў школе. Варта, каб аб гэтым падумала абслуга ў Орлі, На фільм людзі ходзяць няроўна. Калі ідзе савецкі, а яшчэ ваенны, то сабярэцца каля 100 з Крывяціч і толькі ж з вёскі Мора. А калі ідзе сучасны, рамантычны, прыдзе 20—25 чалавек, а пад канец фільма астанецца 7—10 асоб. Вынікае адно — «давайце добрыя, савецкія, ваенныя фільмы», а будзем усе хадзіць.

**Я. Кірыдзюк**




Дарагое Сэрцайка

Выехала я на адпачынак над мора. На пачатку месяца пазнаёмілася я з хлопцам малодшым ад мяне на 5 год. Мы былі разам два тыдні, і ён выехаў. Збышэк нежанаты. Я маю мужа і двое дзяцей. Над морам я была адна (без мужа і дзяцей). Я пакахала Збышка. Ён таксама часта паўтараў, што мяне кахае. Прасіў мяне, каб пісаць лісты, на другі год ізноў выбрацца разам на адпачынак. Больш нічога не абяцаў. Нядаўна атрымала ад яго ліст, каб пасля нейкага часу сустрэцца ў Варшаве. Я яшчэ над морам і не баюся аб яго лісты. Але што будзе, калі вярнуся дамоў. Баюся, што мой муж можа пераняць пісьмо ад Збышка і магу мець тады вялікую прыкрасць. Праўду кажучы, хацела б кончыць перапіску са Збышкам і забыць пра яго, але не магу. Цэлымі днямі думаю пра яго. Парай Сэрцайка, што рабіць?

Галіна з С.

Дарагая Галіна!

Напэўна ваша знаёмства павінна скончыцца, бо ні Збышку, ні тым больш табе гэта ўсё не патрэбнае. Ён яшчэ вельмі малады, а ты маеш мужа і двое дзяцей. А каб пазбегнуць непрыемнасцей, пастарайся не адпісваць на першыя лісты Збышка. Ён напіша адзін, другі і перастане пісаць. А калі вернешся дамоў — клопаты пра мужа і дзеці дапамогуць забыць пра Збышка.

## БУДОВА ЗЛЕЎНІ

У апошніх гадах надой малака з каровы ў Дубічах Царкоўных значна павялічыўся. Чым гэта можна вытлумачыць такі ўзрост? Па-першае, зямля тут падзелена на калёніі, па-другое, сяляне пааралі дзікія лугі і пасеялі тут высакаякасную траву. Некаторыя таксама гадуюць добрую пароду кароў.

Малака тут хоць адбаўляй, і таму па ініцыятыве Прэзідыума ГРН у Дубічах Царкоўных нядаўна пачалася будова злеўні малака. Сяляне вельмі задаволены, таму што заўсёды «лішняе» малако будзе продана дзяржаве.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## СЕЛЬГАСГУРТОК У ЛАСІНЦЫ

Сельгасгурток у Ласінцы быў заснаваны ў 1961 годзе, але да сакавіка мінулага года не праяўляў шырэйшай дзейнасці. Згуртоўваў усяго 16 членаў, у гэтым 6 пайшчыкаў. У 1966 годзе ажывілася праца гуртка. Цяпер налічвае ён 36 членаў і 23 пайшчыкі, мае 4 трактарныя камплекты, малацільны агрэгат і конныя машыны. Праўленне добра кіруе працай гуртка. Дыспетчар Мікалай Янюк і трактарысты Мікалай і Міхал Хадакоўскія, Пётр Філіповіч і Іван Станько дбайна адносяцца да даручаных ім машын і шмат укладаюць намаганняў, каб утрымаць іх у належным парадку.

Фінансава-гаспадарчую дзейнасць за першае паўгоддзе 1967 г. гурток перавыканаў на 5 тыс. зл.

Члены і праўленне гуртка ўсё больш цікавяцца таксама справамі вытворчымі. Ужо 20 членаў гуртка маюць сіласы. Апошнім часам гурток купіў насенне азімай вікі з мэтай закладкі 15 палеткаў. На агульным сходзе ў ліпені гуртkоўцы пастанавілі арганізаваць секцыю гадоўлі быдла.

П-э С

## ПАД РАЗВАГУ ГС У НАРВЕ

Прыгожа пабудавана крама ў вёсцы Белкі, Гайнаўскі павет. Але што з таго, што крама мае прыгожыя сцены, калі тавараў першай патрэбы заўсёды бракуе. І так, напрыклад, цукру не было цэлы месяц, папяросаў «Спорт» — 5 тыдняў, віна — 2 тыдні. І найгорш балючай справай для сялян з'яўляецца тое, што скрынак на яйкі часта бракуе па цэлым тыдні, і больш. Да бялоцкай крамы прыходзяць кліенты з навакольных вёсак. Яны пераважна прыносяць яйкі, каб за іх у абмен дастаць неабходны тавар. А прадаўшчык тады адказвае, што няма скрынак і яек не будзе скупоўваць, бо няма дзе складаць. Тады кліенты адыходзяць дадому, не купіўшы сабе ніякага тавару. Тут варта прыпомніць, што сяляне ў навакольных вёсках гадуюць многа курэй і самі не могуць спажыць яек. А ператрыманыя яйкі стаюць «старымі», падсыхаюць і тады скупшчык іх не прымае.

Ці ж у гэтай справе не зацікаўлена праўленне ГС-у ў Нарве, якое мае немалы даход з закупленых яек, бо яны ж ідуць на экспарт. Варта, каб нараўскі ГС сур'ёзна падумаў аб гэтай справе і прыняў якія-небудзь меры, каб больш скрынак на яйкі па крамах ніколі не бракавала. Таго жадаюць жыхары Белак і навакольных вёсак.

Падумайце і пастарайцеся гэта ліквідаваць.

М. Л.
Гайнаўскі павет

## НОВАЯ ПАНАРАМА СТАРОГА ЛЯЎКОВА

За вёскаю Старое Ляўкова ў Гайнаўскім павеце расце завод прамысловай керамікі, які ўносіць істотныя змены (глядзі здымкі) у спакойны прыпушчанскі краявід тутэйшай ваколіцы.





Фота: **Я. Цялушэцкі**

це войска! Прачашыце ўсю ваколіцу! Перапіліся, паршывыя дурні!

✼

...Прадзіраючыся скрозь карчы, Аня думала: «Не пайду я ў горы. Я тут нічога не ведаю. З сабакамі схопяць. Трэба выходзіць на дарогу і паспрабаваць спыніць нейкую машыну. Бегла яна добра, таму яшчэ да таго, як немцы паднялі страляніну, была ля шашы.

Першая ж нямецкая грузавая машына спынілася, калі Аня падняла руку. Дзяўчына ўлезла ў цёплую кабіну, дзе пахла табаком.

— А, паненка, — сказаў шафёр, — вохін геест ду?

— Дорт, — сказала Аня, махнуўшы перад сабою рукою, — нах Кракаў.

Шафёр уцешыўся, вырашыўшы, што яна разумее па-нямецку, і быстра загаварыў, паглядаючы коса на Аню.

— Іх не фарштее, — сказала Аня, — нур веніх.

Шафёр засмяяўся, дастаў сігарэту, спрытна кінуў яе сабе ў рот, таксама спрытна адной рукой прыкурыў, потым перахапіў руль левай рукой, а правую палажыў Ані на нагу.

— «Ну вось, — падумала Аня. — Пачынаецца. Зараз палезе. Колькі мы ад'ехалі? Кіламетраў пяць. Сабакі мяне цяпер не схопяць. Калі будзе лезці — трэба ўцякаць».

Аня агледзела шафёра.

«Пажылы, — падумала Аня, — з гэтым спраўлюся.»

Немец зноў нешта быстра залапатаў, прысунуў да сябе Аню і пачаў тармазіць. Насустрач ім па шашы праімчалі тры машыны.

«Напэўна, за мною, — падумала Аня. — Хоць яшчэ рана. А мо, у іх дзе-небудзь блізка гарнізон, яны адтуль паднялі атрад, каб прачасаць лес».

Шафёр павярнуў да сябе Аню і пачаў быстрымі, халоднымі пальцамі расшпіляць гузік на яе кофтачцы. Аня прыціснулася да немца, абняла яго галаву і шапнула:

— Айн момент, бітэ.

— Гут, — адказаў немец, — абер шнелер.

«Жакет браць нельга, — вырашыла Аня, — адразу западозрыць. Чорт з ім, з жакетам!»

Яна падсунула немцу свой жакецік і паказала вачыма, каб ён павесіў яго каля свайго мундзіра. Немец кіўнуў галавой і павярнуўся, каб павесіць яе жакет. У гэты час Аня адчыніла дзверы і выскачыла з кабіны. Пераскочыўшы праз роў, яна апынулася ў лесе. Немец штосьці крычаў ёй услед. Чым далей яна бегла, тым цішэй гучаў яго голас. А потым і зусім прапаў.

✼

Раніцай шэфу гестапа далажылі, што лес і горы навокал былі дакладна прачэсаны, сабакі ўзялі след рускай, але каля шашы след абарваўся, і ўсе далейшыя пошукі нічога не далі.

Патрулі на шашы, папярэджаныя гестапа, правяралі кожную машыну. Але рускай ні ў адной машыне не было.

✼

Вечарам наступнага дня Аня была ў Палека. Праз гадзіну за ёй прыйшоў Сівы. У гэты ж дзень яе адвялі да Віхра. Яна кінулася да яго, павесілася ў яго на шыі, і ён гладзіў яе галаву і цалаваў яе твар, а яна ніяк не магла стрымацца і плакала наўзрыд.

(Працяг будзе)

## СЛАБА ВЫХАВАНЫЯ

Так, слаба выхаваныя лук'янскія дзеці.

Напрыклад, у Луцэ 18.08.67 г. (пятніца) здарыўся такі выпадак. Хлопцы з суседніх вёсак з Рыбакоў, Гарбароў і Бандароў вечарам прыйшлі ў Луку ў клуб. Клуб быў замкнуты. Павярнулі назад. Ідуць, раптам з-за платоў сыпанулася на іх каменне. Потым другі раз і трэці. І раздаўся вясёлы рогат з вульгарнымі словамі. Гэты выпадак бачылі старэйшыя людзі, якія стаялі на вуліцы, аднак сынкам нічога не сказалі. А сынкам ужо па 14—17 гадоў. Падобныя выпадкі ў Луцэ таксама мелі месца раней, калі суседніх хлопцаў закідалі камянямі. Аж сорамна пісаць аб такіх справах. Трэба, каб гэтым заняліся бацькі, школа, а калі гэта не паможа, то МО ў Нараўцы.

**«Клён»**

# КІНО

**ПРАГРАМА**
**на 12—17.IX.67 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Powiernik pań" (franc.), 12 — 13. „Pociąg pod specjalnym nadzorem" (czeski), 14 — 15. „Zejście do piekła" (angl.), 16 — 17.

**Кляшчэлі**
„Spotkanie ze szpiegiem" (polski), 12 — 13. „Nieznajomi z pociągu" (USA), 14 — 15. „Kontrybucja" (polski), 16 — 17.

**Дубіны**
„Skrytobójcy" (NRD), „Ściana czarownic" (polski), 16 — 17.

**Нараўка**
„Tomasz oszust" (franc.), „Gdzie jest trzeci król" (polski), 13 — 17.

**Нарва**
„Ktokolwiek wie" (polski), „Towarzysze podróży" (radz.), 13 — 17.

**Чыжы**
„Obrońca z urzędu" (angl.), „Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 13 — 17.

**Дубічы Царкоўныя**
„Fatalny list" (angl.), „Chudy i inni" (polski), 13 — 17.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Popioły" (polski), I i II s. 13 — 17.

**Орля**
„Troje i las" (polski), „Anioł błogosławionej śmierci" (czeski), 13 — 17.

**Райск**
„Popioły" (polski), I i II s. 13 — 17.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Zwali go Alkapone" (radz.), „Ludzie z hotelu" (USA), 12 — 15.

**Міхалова**
„Na tropie policjantów" (angl.). 12 — 13. „Śmierć nazywa się Engelchen" (czeski), 14 — 15. „Człowiek z karabinem" (radz.), 16 — 17.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Wąż morski z Loch Ness" (angl.), 12 — 13. „Upiór z Morsville" (czeski), 14 — 15. „Kontrybucja" (polski), 16 — 17.

**Шудзялава**
„Długość pocałunku 90" (czeski), „Dwie noce jednego dnia" (jugosł.), 13 — 17.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Gorące lato" (jugosł.), „Tata, mama, córka i zięć" (radz.), 13—17

**Новы Двор**
„Bokser" (radz.), „Zabawy w muzeum" (węgierski), 16 — 17.

**Ліпск**
„Don Gabriel" (polski), „Tytoń" (bułg.), 16 — 17.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.

